№ 3 (5). Нядзеля 29-га Красавіка 1928 г. м. Вільня. Год II.

# БЕЛАРУСКІ РАДНЫ

Пэрыядычная часопісь па самаўрадавым справам нашага краю.

| | | |
|---|---|---|
| РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:<br>WILNO, Zawalna 6–5.<br>Тэлефон 14-35. | ПАДПІСНАЯ ЦАНА:<br>За 3 месяцы . . . . 2 зл.<br>1 нумар . . . . . . 50 гр. | АБВЕСТКІ ПА УМОВЕ. |


## Сацыяльнае пытаньне у нашым Краі і самаураады.*)

У нашым артыкуле папярэдняга нумару было сказана, што народ, яго працоўная энэргія (сіла) — першае і галоўнае багацьце краю, бо толькі яно, а ня што іншае творыць матар'яльны і духоўны дабрабыт краю.

Але-ж кожнаму ясна, што для гэтай працоўнай, творчай энэргіі чалавека павінны істнаваць пэўныя матар'яльныя і духоўныя варункі, якія прынцыпова робяць магчымай працу гэтай чалавечай энэргіі ў краі.

Польшча, а асабліва яе ўсходнія абшары, належаць да тых маладых краёў, у якіх насяленьне павялічваецца найшпарчэй. Побач з Расеяй, Нямеччынай, Італіяй, Амэрыкай і Японіяй — «чалавечы капітал», які творыць усе іншыя, дае ў Польшчы найвялікшы процант — 1.5%.

Гэта значыць, што ў Польшчы прыбывае людзей, лічучы на 28—30 мільёнаў усяго насяленьня, *па 420—450 тысячаў у год*. Слушна бачаць у гэтым доказ пачатнай жыцьцёвай сілы народу, залог яго далейшага разросту і будучыні.

Але-ж з другога боку, нармальна разьвіваючыся гаспадарча, край павінен стала і плянова падрыхтоўваць для гэтага штогодняга прыплоду новых сілаў суадказныя мейсцы ў гаспадарчай галіне краю, ствараючы ўсьцяж для іхняе працоўнае энэргіі новыя варштаты працы.

І вось, трэба з вялікім сумам сьцвердзіць, што гэтай жыцьцёвай сіле нясяленьня ня зусім адказвае «гаспадарчая прырода» краю, а перад усім на нашай многапакутнай вёсцы. Як гэта ня дзіўна, але, ня гледзячы на вялізарныя абшары нашага Краю, пры найменшай ў сярэдняй Еўропе гушчыні насяленьня, насяленьню гэтаму, а асабліва на вёсцы, робіцца ўсё цясьней, усе больш не хапае варштатаў працы!...

Гэта значыць, што гаспадарчае разьвіцьце Краю адстае ад прыроднага ўзросту насяленьня.

Прыгледзімся бліжэй, чым гэткае зьявішча пагражае і як знайсьці яму рады.

Нармальна ў гаспадарча арганізаваных краёх прамысловае места, разрастаючыся ды разьвіваючы фабрычна-заводзкія асяродкі, вытварае масава, дзесяткі і сотні тысячаў новых гаспадарчых «месцаў», на

---

АД РЭДАКЦЫІ: На сколькі актуальны парушаныя у гэтым артыкуле пытаньні, відаць з таго, што яны былі высунуты на першы плян у Бюджэтнай Камісіі Сойму як дакладчыкам па бюджэту Мін. Гандлю і Прам., таксама і Мін. Зям. Рэф. Напісаны раней артыкул ня мог, нажаль, пазвацца на гэтыя аутарыт. галасы

якія выцягвае з вёскі зьлішкі яе насяленьня.

Адначасна на вёсцы амаль што ўсюды на сьвеце пад націскам узросту насяленьня йшло драбленьне буйнай зямельнай ўласнасьці, ствараючай гэтым новыя «гаспадарчыя месцы» і варштаты працы.

Калі-ж гэтыя абодва нармальныя працэсы ў краі чамусьці прыпынены, тады край, а перад усім вёска залішне перапаўняецца насяленьнем і нармальнае сацыяльна-гаспадарчае жыцьцё краю няўхільна выраджаецца. На вёсцы пачынае фарсавана ісьці вельмі гаспадарча шкодны і сацыяльна небясьпечны працэс далейшага раздробленьня сялянскіх гаспадарак але ўжо шляхам сямейных падзелаў гаспадарак, якія дзеля таго ўсьцяж трацяць свой здаровы гаспадарчы, карысны для краю, характэр і ня могуць даць працы ўсім вольным рукам на вёсцы.

Побач з гэтым разьвіцьце прамысловасьці ідзе вельмі паволі, адстаючы ад узросту насяленьня. Нашае места ня толькі не цягне да сябе зьлішкі людзей з вёскі, але, маючы ў сябе звыш 15 проц. сваей работніцкай арміі бяз працы, само адсылае частку яе назад — на вёску!!... Чаму гэта так, мы тутака падрабязна высьветляць ня будзем. Сьцьвердзім толькі, што адыйграла тутака і вайна сваю страшэнную ролю, зьніштожыўшы амаль не цалком усе сабраныя вякамі капіталы ў Краі. Адыйграла сваю ролю і палітыка папярэдняе ўлады.

Праўда, да нядаўняга часу істнаваў у нас адзін „найлягчэйшы“ спосаб вырашэньня сацыяльнага пытаньня ў Краі, гэта — спосаб выкіданьня зьлішку людзей па-за межы Краю, ці т. зв. — *эміграцыі.*

Але слушна ўсе дасьледчыкі лічуць эміграцыю найгоршым спосабам вырашэньня сацыяльнага пытаньня ў краі.

Бо-ж трэба дадаць, што эміграцыя забірае з краю якраз найлепшыя працоўна-творчыя сілы, асабліва-ж — у апошнія часы, калі ў дадатак урады краёў, прымаючых эмігрантаў, ставяць нябывала высокія варункі кандыдатам.

Але, нажаль, у самыя апошнія часы нават і гэты, найгоршы выхад з небясьпечнага палажэньня амаль што цалком зачынены для нашага Краю. Справа ў тым, што амаль ня ўсе эміграцыйныя краі настолькі абмяжавалі свае «эміграцыйныя квоты», што гэты спосаб перастае ўжо ратаваць палажэньне. Дамо ў доказ пару забойчых лічбаў, пададзеных нядаўна ў дакладзе д-ра Шаўлеўскага ў Варшаве.

Нямеччына забірала да вайны з абшараў сучаснай Польшчы 600 тысяч сэзонавых работнікаў; цяпер ня ўпускае да сябе больш 50 тыс., дый імкнецца, як сьцьвярджае даклад, да поўнага зачыненьня граніцы. Эміграцкая хваля з Польшчы ў Амэрыку прымусова зьменшана апошняй — 855 000 (да вайны) на 150.000 у 1921 г. Цяпер гэта квота яшчэ меншая. Значны рынак для вывазу працоўнай сілы і сацыяльнай небясьпекі з Польшчы дае пакуль што Францыя. Але і тут, кажа дакладчык, „трэба ў кожны мамэнт спадзявацца, што новы прамысловы крызыс адашле ўсіх страціўшых працу эмігрантаў дамоў“..

Такім чынам, кажа д-р Шаўлеўскі, „у Польшчы ўсё шчыльней зачыняецца той «прадахоўны клапан бясьпечнасьці», які праз эміграцыю дае яшчэ пэўны выхад усьцяж грамадзючымся сілам, якія ня могуць быць выкарыстаны ў Краі».

Перапаўняючыся «непатрэбнымі», галоднымі і неспакойнымі элемэнтамі, край ўсе больш робіцца падобным да нейкага, пастаўленага на вагонь, ды наглуха зачыненага начыньня, у якім неабмяжована расьце так зван. «сацыяльнае цісьненьне», пагражаючае няўхільным выбухам, калі ў часе ня будуць прыняты экстранна і плянова патрэбныя меры.

Бо-ж якраз адсутнасьць гэтых мераў у гаспадарчай палітыцы ў нашым Краі і зрабіла тое, што найвялікшае багацьце Краю — працоўная энэргія яго насяленьня ня толькі не спаўняе сваей задачы, ня творыць дабрабыту ў Краі, але, напружна шукаючы працы, ці адвыкаючы ад яе, ператвараецца ў найгоршую небясьпеку для Краю.

Справе гэтай памагчы можа толькі розум, ды супольная праца.

Улада заўсёды мае нахіл «лячыць» гэтую глыбокую сацыяльна-гаспадарчую хваробу *толькі* адміністрацыйна. Розум павінен рашуча перасьцярагчы ад гэтага спакусу залішне лёгкага лячэньня.

Ясна, што добрыя рэзультаты дасьць толькі плянавая, супольна-згодная, прасякнутая поўным даверрам, ды добрай воляй

з абодвух бакоў, прапа ўсіх жывых і творчых сілаў Краю над спыненьнем указаных вышэй глыбокіх духоўных і гаспадары прычынаў хваробы.

І тутака роля самаўрадаў, як натуральных пасрэднікаў і лічнікаў паміж уладай і насяленьнем, запраўды-ж вялізарная.

У паразуменьні з урадам, дый ў цесным кантакце з насяленьнем, самаўрады павінны стаць на чале, захапіць у свае рукі пачын гаспадарчага адраджэньня Краю. Меставыя самаўрады павінны прылажыць усе сілы, каб ня толькі тымчасова карміць «цублічнымі работамі» свае арміі безработных, але каб пайсьці значна далей: праявіць усю актыўнасьць у напрамку разбудовы прамысловых асяродкаў Краю, ствараючы гэтым шляхам тысячы новых «месцаў» для зьлішкаў яго насяленьня.

Вясковыя сялянскія самаўрады, разумеючы бліжэй за ўсіх патрэбы сялянскага жыцьця, павінны будуць, паміж іншым, усьцяж націскаць на ўсе адказныя чыннікі дзяржаўнай улады ў кірунку рашучага правядзеньня так страшэнна запазьніўшайся зямельнай рэформы. Сваім спакойна-рэчавым аўтарытэтным голасам, бяз злоснай дэмагогіі, самаўрады павінны ўсьцяж даводзіць, каму трэба, што без стварэньня і на вёсцы патрэбнага ліку варштатаў працы ня можа быць ані нармальнага ўздыму прадоўнай энэргіі насяленьня, ані падняцьця заняпаўшага дабрабыту Краю, ані сталага сацыяльнага ладу і спакою, ані нават трывалага ў ім стану бясьпечнасьці...

Прычыняючыся актыўна да грунтоўнага вырашэньня страшэнна запушчанай да небясьпечнага «запаленьня» сацыяльнай хваробы Краю, самаўрады могуць зрабіць шмат добрага і карыснага для нясяленьня і ў справе эміграцыі.

Самаўрады могуць унесьці больш пляновасьці, ды парадку ў самы эміграцыйны рух з Краю.

Самаўрады могуць падтрымліваць сталую ды арганізаваную сувязь з асяродкамі краёвых эмігрантаў на чужыне. Бо-ж трэба памятаць заўсёды, якую вялізарную ролю адыйграла эміграцыя ў гісторыі іншых краёў, як Нямеччына, Ірляндыя, Літва і інш.; якімі вялізарнымі карысьцямі можа пасьля адудзячыць яна роднаму Краю, калі ня страціць з імі кроўнай і духовай сувязі. Няма таго зла, якое добрая воля не магла-б скіраваць на дабро!...

# Зьезд у шляхавай справе ў Варшаве.

Польская сучасная улада добра разумее вялізарнае значэньне добрых шляхоў для гаспадарчага і ўсялякага наагул разьвіцьця гаспадарства. Дык у пачатку студня гэтага году у Варшаве адбыўся першы з'езд у справе урадавых і самаўрадавых шляхоў камунікацыі ў Польшчы, сабраўшый каля 1000 дзеячоў у гэтай галіне тэхнічнай культуры краю.

На гэтым „дарожным кангрэсе" было дакладна высьветлена вялізарнае значэньне шляхавай справы для суцэльнасьці дзяржаўнага жыцьця і дабрабыту насяленьня Краю. У сваей прамове мін. Публічн. Работаў п. Морачэўскі слушна падкрэсьліваў важнасьць будаваньня, ды добрага ўтрыманьня шасэйных шляхоў у Краі, на што прапанаваў увясьці спэцыяльны дадатак. „Калі насяленьне ўразумела патрэбу добрых дарогаў, казаў ён, дык павінна нясьці пэўныя цяжары; але яны — сторазова аплоцяцца Краю."

Кангрэс разьбіўся на тры камісіі: тэхнічна-дарожную, гаспадарча-фінансавую і адміністрацыйна-арганізацыйную.

Першая камісія ў сваіх прапазыцыях слушна высунула побач з справай шосаў і нямонш важную, асабліва для нашага беднага Краю, справу грунтавых шляхоў, „якіх аначэньне, як драбнейшых заселяючых жылаў ня было дагэтуль прызнавана у-ва усеи поўні"... Але наагул кангрэс больш цікавіўся культурнымі абшарамі цэнтральнай Польшчы, чым нашым бездарожным Краем, дзе трэба ўсё пачынаць ад самага пачатку... Трэба думаць, што голас нашага Краю вельмі слабы гучэў, ды быў слуханы на кангрэсе. *Зрабіць гэты голас мацнейшым*—як у Краі так сама і ў Варшаве, — *адна з важнейшых задачаў нашых самаўрадаў.* Але гэта задача можа быць вырашана *аб'яднанымі самаўрадамі ўсяго нашага Краю.* Да вельмі важнай справы гэтага аб'яднаньня самаўрадаў, прадбачанага і ў Законе 4 11-19г. мы яшчэ вернемся. Цяпер толькі яшчэ раз падкрэсьлім, што бяз гэтага аб'яднаньня немагчыма будзе ніякая вялікшая, пляновая праца па грунтоўнаму палепшаньню дарогаў у нашым Краі.

Тэхнічная Камісія прызнала патрэбным залажыць „Дарожна-Дасьледчы Інстытут—асобную практычна-навуковую установу—якая-б сачыла за поступам шляхавай тэхнікі, выкарыстоўваючы яго для інтэрэсаў Краю.

Гаспадарча-Фінансавая Камісія паміж іншымі важнымі пастановамі запрапанавала залажыць „*Дарожную Раду*," а так сама пакінуць

пасьля кангрэсу сталы орган, які-б кіраваў ўсей шляхавай справай ў Польшчы. Гэта камісія прызнала, што *„добрыя дарогі — першы і неабходны варунак для павялічэньня сельска-гаспадарчай прадукцыі у Краі, ад чаго будзе залежаць дабрабыт такога пераважна аграрнага земляробскага краю, як Польшча.* Запамятаем добра гэтыя словы Гаспадарчай Камісіі кангрэсу...

Кангрэс прыняў і быццам некарысную для сялянства пастанову: пакінуць надалей той „дарожны прыгон", які тасуецца дагэтуль у Польшчы, а асабліва ў нас — часта з вялікай крыўдай ды надужыцьцямі на мясцох для насяленьня. Кангрэс матываў сваю пастанову тым, што „у Краі ёсьць зьлішак рабочых рук, а платнічая сіла насяленьня слабая"...

Нам вельмі цяжка згадзіцца з такой пастановай кангрэсу, крыўдзячай загарантаваную Конституцыяй асабістую годнасьць вольнага грамадзяніна Рэчыпаспалітай. Мала таго: мы павінны тутака сьцьвярдзіць, што той закон, на які пазывецца кангрэс наследаваны вольнай Польскаю Рэспублікай ад даваенных паліцэйскіх манархіяў, якія глядзелі на сялянства, як на „чалавечы матар'ял," з якім можна рабіць усё, што толькі захочаш...

Усе гэтыя „пазасталасьці" у новым рэспубліканскім законадаўстве трэба выкінуць бяз жалю, як старое шкоднае ды агіднае сьмяцьцё, толькі атручваючае атмасфэру новага жыцьця новага дэмакратычнага ладу... тым больш, што гэтая „дарожная паншчына," ў канцы канцоў не дае карысьці і ў цікавай для нас тутака шляхавай справе. Бо-ж тымі паліцэйскімі спосабамі, якія дагэтуль тасуюцца ў нас дзеля „папраўкі дарогаў," нічога добрага і трывалага ў гэтай галіне ня зроблена дый ня зробіцца. Трэба ўсю справу паставіць зусім інакш - на адпаведную тэхнічную - з пляновым гаспадарчым ахопам, на што ніколі ня былі дый ня могуць быць здольнымі паліцэйскія ўлады...

І ў гэтай балючай справе — скасаваньня шляховага прыгону — самаўрады павінны рашуча забраць голас. Толькі—самахоць выяўляная добрая воля самаўрадова арганізаванага насяленьня здалее першым чынам спыніць ды скасаваць крыўдны ды абражаючы прымус закону, разглядаючага сялянства, як „ніжэйшы, падуладны стан падданных"... Калі самаўрады самі зробяць пастанову аб неабходнасьці ды точным парадку тасаваньня прымусова ўсяго насяленьня да папраўкі дарогаў, тады абражаючый годнасьць закон адразу страціць сваю абразьлівасьць.

Для тых, хто ня можа ці ня хоча даць свае рукі, хай замест гэтага плаціць гатоўкай ці натураю — матар'ялам. Тады — „прыгон", стаўшы вольнай ахвярай сведамага грамадзяніна, пакуль што можа астацца. Але - безадкладна трэба апрацоўваць ды тасаваць больш пляновыя, тэхнічна і гаспадарча мэтныя спосабы вырашэньня балючай шляхавай справы ў нашым Краі...

Паміж іншымі пастановамі камісіі Адмін-Арганізацыйнай кангрэс прыняў пастанову аб тым, каб упраўленьне дзяржаўнымі, ваяводзкімі і павятовымі дарогамі былоададзена ў рукі ваяводзкага самаўраду.

# Значэньне мэліарацыі ў нашым краі.

Культурны стан нашых ральнічых варштатаў, а гэтым самым і выдайнасьць аднаго гэктара ў нашым Краі на 50% ніжэй, чым у заходніх ваяводзтвах; у параўнаньні-ж з заграніцаю — суседнімі заходнімі дзяржавамі — яшчэ горэй, бо розніца дасягае 100 проц.

Нашыя суседзі дасягнулі гэтых вынікаў ня толькі ўпорнаю працаю і выкарыстаньнем новых дасягненьняў веды ральнічай, але ў першую чаргу правядзеньнем магчымых мэліарацыяў у гаспадарцы, даючы гэтым усей сваей прадукцыі найлепшыя варункі разьвіцьця. Гэта даводзіць, што падставовым чыннікам дабрабыту ў ральнічых дзяржавах былі і далей будуць гаспадарчыя мэліарацыі.

Дасьведчаньне паказвае нам незапярэчна, якія нявычарпаныя багацьці ляжаць у нашых неабводненых аральных грунтах, неасушаных і кіслых сенажацях, у нашых пасьбішчах і непрадуктыўных дрыгвах. У гэтых ненармальных варунках гадоўля статку і іншай жывёлы дае вельмі благія вынікі. Вышэйшыя віды рольных пладоў ня маюць ужытку і ня могуць быць у поўнай меры ўжыты штучныя гнаі. Апрача гэтых ад'емных бакоў ёсьць яшчэ шмат слабасьцяў на кожным кроку дзеля адсутнасьці належнай мэліарацыі. Рацыянальнае выкарыстаньне мэліарацыі ёсьць адзіная пара ўхіліць блага. Дзякуючы мэліарацыі мы ня толькі паднялі-бы вытворчасьць, але падштурхнулі-бы разьвіцьцё прамысловасьці і гандлю праз павялічэньне абойма ўнутранага рынку. Дзеля гэтага сельскагаспадарчая мэліарацыя зьяўляецца праблемаю ня толькі сялян, але роўным чынам прамысловасьці і гандлю, — першараднаю дзяржаўнаю праблемаю, якая павінна праўдзіцца і падтрымлівацца для агульнае карысьці.

Гэтые блага можна ўхіліць толькі агульнымі высілкамі земляробаў незалежна ад іх палітычнай ахварбоўкі, упорнаю працаю і самазапамогаю і супрацоўніцтвам. На тэрэне 4 усходніх ваяводзтваў—Віленскага, Навагрудзкага, Палескага і Валынскага, абыймаючых разлеглась каля 124,000 кв. кілём., маем 4,281,600 гэктараў кіслых лугоў, пасьбішчаў і ня выкарыстаных балотаў. Калі далучым да гэтага каля 1 мільёну гэкт. лясных балотаў, дык атрымаем больш 5 мільёнаў гэктараў, з якіх бяз мэліарацыі немагчыма эксплаатаваць.

Якою вялікою шкодаю ў падняцьці расьліннай і жывёлавай прадукцыі зьяўляюцца балоты — сведчыць факт, што ў некатарых паветах Палескага ваяводзтва абшар балота складае 65 проц. агульнага абшара павету.

Адсутнасьць мэліарацыі стала прычынаю слабага насельніцтва ўсходніх ваяводзтваў, — на гэтым вялізарным абшары жыве ня больш 4,500,000 чал. Найелабей заселяна Палескае ваяводзтва — 25 чал. на кв. кіл. Найгусьцей заселяныя паветы ўсходніх ваяводзтваў лічаць

| | Грунт аромы | Лес | Сенажаць | Пасьбішча | Няужываны | Торфяны | Зэмліараваны | Даваенныя зборы жыта у q з 1 ha | На 100 кіл. абшару | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | Насяленьня | Пашы |
| Усх. ваяводзтвы | 4,445,200 | 3,516,800 | 1,550,300 | 693,200 | 2,038,100 | 1,700,000 | 60,000 | 7,8 | 3,320 | 2,0 |

73 чал. на кв. кіл. На гэтых абшарах ёсьць толькі 600,000 малых гаспадарак, з якіх 65 проц. маюць больш 4 гэкт., 20 прсц. — 4 гэкт. і 15 проц. ад 0—2 гэкт.

Прыведзяныя лічбы выразна твораць за плянавую мэліарацыю і павялічэньне пасяленьня ў мэтах інтэнсыўнейшай гаспадаркі. Павялічэньне інтэнсыўнасьці можа ісьці вельмі шпарка, як гэта даводзяць лічбы „Stacji Doświadczalnej uprawy kultur torfowych w Sarnach" у Палескім ваяводзтве. Вось статыстычныя даныя за апошнія годы: і з 1 гэкт. зэмліараваных торфавых лугоў і пасьбішчаў атрымана 100 q добрага сена замест 10 q кіслага, 400 q. бульбы, 900 q капусты і г. д.

Пры гэткай выдайнасьці з 1 гэкт. ужо 4 гэктаровая гаспадарка можа быць сама здавальняючай, калі толькі будзе вясьціся ў кірунку жывёлагадоўлі. Дзеля таго, што пасьля здаваленьня мясцовага насяленьня пасьля мэліарацыі ўсходніх ваяводзтваў засталося-бы каля 1,500,000 гэкт. для парцэляцыі, дык можна было-бы даць варштаты сельскае працы новым 250,000 семьяў.

На першым месцы па балотнасьці стаіць Палескае ваяводзтва, за тым ідзе Валынскае ў сваей паўночнай часьці і на трэцім месцы ваяводзтва Навагрудзкае і Віленскае. Дзеля гэтага мэліарацыйная праца ў шырэйшым маштабе распачалася ад Палескага ваяводзтва. З гэтаю мэтаю Урадам паклікана да жыцьця „Biuro Meljoracyjne", якое ў гэтым годзе распачне прыгатаваўчую працу і навучныя дасьледаваньні. Заснаваўся „Związek Meljoracyjny Sejmików Ziem Wschodnich", закладающца „Spółki Wodne". Рольны Банк атрымаў значныя сумы на мэліарацыйны фонд. Усе гэтыя меры прывядуць бязсумліву да аздараўленьня сельска-гаспадарскіх адносінаў у нашым Краі і пазволяць стварыць новыя варштаты працы.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Сельска-гаспадарчая сытуацыя Віленскага ваяводзтва.

У гаспадарцы Віленскага ваяводзтва пасьля маёвага перавароту наступіла выразная зьмена на лепшае. У той час, як папярэднія ўрады вялі аднабокую палітыку падтрыманьня вытворчай прамысловасьці і абароны места коштам ральніцтва, што адʼемна адбілася на платвым балянсе Дзяржавы, бо ў істоце Польшча зьяўляецца больш ральнічаю дзяржаваю, чым прамысловаю,— урад Маршалка Пілсудзкага рашуча і цалком зьмяніў папярэдні кірунак гаспадарчай палітыкі, высуваўшы на першы плян лёзунг палепшаньня платнага балянсу Дзяржавы шляхам узмацненьня ральнічай прадукцыі і роўнага трактаваньня ўсіх гаспадарчых чыннікаў. Дзякуючы гэтаму ў кароткі час была дасягнута раўнавага ў дзяржаўным бюджэце, гандлёвы балянс значна палепшаў, а ўзрост цэваў на сельска-гаспадарчыя прадукты ўзмоцвіў пакупную здольнасьць вёскі і павялічыў запатрэбаваньні прадуктаў вытворчай прамысловасьці, што ў сваю чаргу ажывіла вытворчую прамысловасьць, павялічыла заробкі і зьменшыла безработцце.

Новы кірунак гаспадарчай палітыкі памаёвага ўраду вельмі карысна адбіўся на Усходніх ваяводзтвах (асабліва Віленскае), якія маюць спрыяючых варункаў для прамысловасьці. Для Віленскага ваяводзтва палітыка папярэдніх урадаў была ўдвойчы забойчая дзеля таго, што яго тэрэн найбольш пацярпеў ад вайны і бяз урадавай грашовай запамогі ня мог адбудавацца і стаць здольным для гаспадарчага жыцьця.

Ніжэй падавыя лічбавыя данныя найлепш ілюструюць гэтую зьмену гаспадарчай палітыкі Ураду Маршалка Пілсудзкага ў адносінах Віленскага ваяводзтва ў бок палепшаньня, якое магло настаць толькі дзякуючы зьмяншэньню вялікай рожніцы між цэнамі на прамысловыя і сельска-гаспадарчыя прадукты і ўрадавым пазыкам для ральніцтва. Балянс Віленскага аддзяленьня Дзяржаўнага Рольнага Банку, дзеяльнасьць якога ахапляе ваяводзтвы Віленскае, Навагрудзкае і частку Беластоцкага, на 1. I. 1926 г. замыкаўся лічбаю 3.664.500 зл., на 1. I. 1927 г.—15.236.200 зл. і на 1. I. 1928 г. 30.457.700 зл. Пры гэтым трэба адцяніць, што ўзрост гэтых лічбаў дасягнуты выключна коштам урадавых пазык на мэты, зьвязаныя з ральніцтвам.

Агульная лічба кароткатэрміновых пазык гэтага банку складала: на 1. I. 1926 г.— 1.014.700 зл.,

на 1. I. 1927 г.—3.822.200 зл., і на 1. I. 1928 г. 9.789.900 зл., а доўгатэрміновых: на 1. I. 1927 г. 135.300 зл. і на 1. I. 1928 г.—2.850.000 зл., з іх на Віленскае ваяводзтва 1.610.000 зл. адначасова падаў пазычковы процант, які ў 1925 г. складаў 18-20 у год. У ліпні 1926 г. процант быў зьменшаны да 12-14% (цяпер максімум складае 11 проц.

Роўным чынам узрасьлі крэдыты на тасаваныя запамогі для пацярпеўшых ад няўраджаю. Для дробнага ральніцтва гэтыя запамогі складалі ў 1925 г. — 375.000 зл., 1926 г. — 865.000 зл. і ў 1927 г.—1.200.000 зл. Большменш у гэткіх саадносінах выдаваліся пазыкі і Банкам Краёвага Гаспадарства.

Затым была зьвернута вялікая ўвага на адбудову зьнішчаных гаспадарак у паласе, па якой праходзіў быўшы расейска-нямецкі фронт, роўным чынам на палепшаньне шляхаў. У 1924 г. у прыфрантовай паласе было адбудована толькі 1,7 проц. будынкаў, у 1925 г.—7,5 проц. і ў 1926-7 г. каля 25 проц. разам.

Крэдыты на папраўку шляхаў складалі: у 1924 г. — 432.245 зл., 1925 г. — 634.008 зл., 1926 г.—987.339 зл. і ў 1927 г.—1.170.200 зл. Крэдыты на будову новых шляхаў—у 1924 г.—69.647 зл., 1925 г. — 113.998 зл., 1926 г. — 169.889 зл. і ў 1927 г.—870.000 зл.
Зьмяніўся і характар працы ў галіне палепшаньня аграрнага ўладаньня. У той час як раней дзеяльнасьць земскіх урадаў абмяжоўвалася галоўным чынам парцэляцыяй абшараў, у апошнія два гады галоўная ўвага была скіравана на камасацыю сялянскіх грунтаў (выхад хутары), г. ё. на акцыю, вытвараючую магчымасьць рацыянальнага гаспадараваньня.

Сумесна з камасацыяй выразна ўзьніўся ў ральніцтве кірунак жывёлагадоўлі, як найбольш карысны. У параўнаньні з даваенным станам лік жывёлы на тэрэне Віленскага ваяводзтва павялічыўся; каней — на 68,4 проц., рагатага статку— 66,5 проц., авец і сьвіней — 7,7 проц. Паводле пярэпісі ад 15 сьнежня 1927 г. на тэрэне Віленскага ваяводзтва было: каней—245.000 штук рагатага статку—365.000 штук, сьвіней—228.000 штук і авец — 209.000 штук. Лічбавы стан жывёлы зусім здавальняючы, толькі з боку якасьці прымушае жадаць лепшага. І цяпер гэта складае галоўную заботу Ўраду.

Але Урад ня можа безпасрэдня ўплываць на паляпшэньне ральніцтва ў сэнсе ўмешацельства да тэхнічнага боку, бо гэта шкодзілабы асабістай і грамадзкай ініцыятыве. Дзеля гэтага Ўрад у разгляданы пярыяд дасягнуў падкрэсьляную мэту дзякуючы падтрыманьню Віленскага Ральнічага Т-ва і „Związku Kółek" і ральнічых арганізацыяў, г. ё. інстытуцыяў, якія безпасрэдня ўплываюць на земляробнае сялянства ў сэнсе пашырэньня тэхнічнае веды і грамадзкае самаарганізацыі.

Выдаткі ўраду на гэтыя арганізацыі складалі: у 1925 г. — 85.535 зл., 1926 г. — 113,340 зл. і ў 1927 г. — 150,440 зл. Дзякуючы гэтаму падтрыманьню лічба малочных каапэратываў, арганізаваных Саюзам „Кулак" ральнічых, павялічылася з 5 у 1926 г. да 34 у 1927 г. лік „Kółek kontroli obór" павялічыўся з 1 ў 1926 г. да 7 у 1927 г. Гэтак сама ўзмоцнілася зацікаўленьне „Кулкамі" ральнічымі сярод насельніцтва. У пачатку 1926 г. „Кулак" ральнічых было 109 з 6,600 сябрамі. Дзякуючы стараннасьці Ральнічага Т-ва цяпер ёсьць 27 малочных Каапэратываў і 15 „Kółek kontroli obór" і адчынілася 5 павятовых аддзяленьняў Т-ва. Аб росьце зацікаўленасьці насельніцтва каапэратыўным рухам найлепш сьведчаць наступныя лічбы, паданыя для прэсы Старшынёю Віленскага Рэвізыйнага Саюзу Польскіх Ральнічых Каапэратываў.

| | Лік крэд. каапэратываў | Лік сяброў | Фонд цэнтр. касаў | Уласныя фонды касаў | Сума пазык |
|---|---|---|---|---|---|
| 1.I. 1925 г. | 6 | 265 | — | 6,323 | 23,184 |
| 1.I. 1926 г. | 66 | 10,075 | 17,822 | 256,204 | 834,618 |
| 1.I. 1927 г. | 96 | 24,395 | 32,956 | 561,262 | 2,082,445 |
| 1.I. 1928 г. | 153 | 61,171 | 89,352 | 1,468,604 | 6,690,327 |

З вялікаю прыемнасьцю трэба адзначыць хуткі рост ліку малочных каапэратываў Рэвізыйнага Саюзу, якіх у Віленскім і Наваградзкім ваяводзтвах у 1926 г. было 10, а ў 1927 — 47 і ў бягучым годзе дасягне 100. Гэтыя каапэратывы на тэрэне Віленскага ваяводзтва вытварылі масла: у 1926 г. — 14,726 кілеграмаў, 1927 г. — 89,816 кіл.

Таксама заўважваецца рост сялянскіх банкаў, г. ё касаў дробнага крэдыту, абслугваючых пераважна дробных ральнікоў. Паводле даных кіраўніка Віленскага Аддзяленьня Саюзу Польскіх Каапэратываў, стан іх прадстаўляецца ў наступным відзе: (Гл. табл. на ст. 7).

Намераньні Ўраду ў кірунку падняцьця вытворчасьці ральніцтва былі падтрыманы тэрыторыяльнымі самаўрадамі. У 1924—25 і 26 г. соймікі вызначылі на ральніцтва ў сярэднім 5 прац. сваіх бюджэтаў, а ў апошнім годзе нават 10 прац.

У лічбах немагчыма акрэсьліць палепшаньне гаспадарчага стану дзеля таго, што ў

апошнія тры гады Віленскае ваяводцтва значна пацярпела ад няўраджаю. Аднак-жа, ня гледзячы на гэта, сярэдняя выдайнасьць з 1 гэктару ня рожніцца ад выдайнасьці даваеннага часу, а ў адносінах некатарых збожжаў, як жыта, пшаніцы і бульбы, нават перавысіла. Гэткім чынам павялічэньне пакупной здольнасьці ральніцтва ўплынула на павялічэньне імпарту прадуктаў з другіх месц, як вугаль, нафта, соль, штучныя гнаі і г. д. Затым вытварыліся памысныя варункі для адбудовы мясцовай прамысловасьці, зьнішчанай вайною, як лясная, папяровая, гарбарская і г. д.

| | Лік сялянскіх банкаў | Лік сябраў | Уласны і рэзэрвовы фонд | Уклады | Сума пазык |
|---|---|---|---|---|---|
| 1.I. 1925 г. | 17 | 4,965 | 181,744 | 659,763 | 854,302 |
| 1.I. 1926 г. | 30 | 8,263 | 455,126 | 765,298 | 1,489,997 |
| 1.I. 1927 г. | 30 | 10,484 | 647,924 | 758,373 | 1,846,205 |
| 1.I. 1928 г. | 30 | 14,461 | 823,754 | 912,713 | 3,076,136 |

Нарэшце трэба адзначыць, што ажыўленьне гаспадарчага жыцьця пабудзіла да працы прыватную і грамадзкую ініцыятыву. У апошнія два гады паўстаў шэраг новых інстытуцыяў, як т-ва рыбацкае, агароднае, пчалінае і ў апошні час льняное. Гэтым ажыўленьнем гаспадаркі зацікавіўся нават заграмічны капітал, прапануючы значныя сумы на будоўлю і эксплёатацыю натуральных багацьцяў Краю. Усе гэтыя факты ясна сьведчаць аб павольным, але сталым палепшаньні гаспадарчага жыцьця нашага Краю.

## Кармавыя кораньплоды.

У папярэднім нумары мы ўказвалі на вялізарную карысьць жывёлагадоўлі ў сельскай гаспадарцы Але інтэнсыўная жывёлагадоўля патрабуе перабудовы ўсяе сыстэмы сельскае гаспадаркі, найперш пераходу да павялічаньня культуры кораньплодаў, як кармавыя буракі, бручка, кармавая морква, турнэпс, ня лічачы бульбы, якія за граніцаю зьяўляюцца галоўным кормам статку. Пашырэньне гэтага віду корму жывёлы залежыць у простай залежнасьці ад стойня разьвіцьця статку і наліччa травяной пашы. Але нават і пры давольнай колькасьці апошняй развод кармовых кораньплодаў заўсёды аплаціцца, як найкарысьнейшы корм для малочнага статку, тым больш, што гэта патрабуе невялікіх абшараў зямлі. Якіх небудзь 100-200 кв. саж. пад кораньплоды ня зробіць вялікае рожніцы ў агульным пляне сельскае гаспадаркі, а між тым карысьць будзе вялізарная.

Кожны з гэт х кораньплодаў мае сваю вартасьць. Гэтак кармовы бурак удаецца на добра падрыхтаваных, угноеных палетках, на глебах няквасных. Бурак з усіх карняплодаў вымагае лепшай глебы, лепшага дагляду. Затое гэта найбольш каштоўны для жывёлы корм. Апроч таго ўраджаі буракоў пры спрыяючых умовах вялізарныя: ад 1.500 да 3.500 пудоў з гэктару. Лепшая адлегласьць паміж радоў 12 вяршкоў, а ў радку паміж расьлінамі 6-8 вяршкоў. Найбольш вядомыя і надаючыяся ў нашых умовах сарты „Эккендорфскія чырвоныя" і „Эккендорфскія жоўтыя".

Кармовая бручка павінна ў нас заняць пачэснае месца таму, што лепш удаецца, як буракі. Бручка родзіць і на суглінках і на супясках. На новых пасёлках, вядома, пакуль неапрацаваны належным парадкам прысядзібныя палеткі, пасьля іх добрага ўгнаеньня (увосень) магчыма ў першую чаргу садзіць рассадай бручку (12×6 вяршкоў). У палове красавіка трэба на градцы ў зацішку, каля хаты высеяць насеньня бручкі для атрыманьня рассады, якая і высажваецца ў канцы траўня (мая). У першыя два тыдні рассада, высаджаная на месцы, вымагае паліўкі і барацьбы са шкоднікамі, але, калі яна прымецца, шпарка пачынае расьці.

Ураджай бручкі заўсёды больш пэўны, як буракоў, вядома, пры належным даглядзе. З аднаго гэктара ад 1.000 да 2.500 пудоў. Гэтыя кораньплоды вельмі добра захоўваюцца ўзімку, але, нажаль, нашае сялянства наагул ня ўмее належным парадкам выбіраць і захоўваць. Ня трэба, як часам наглядаецца, скрабаць нажом скурку, ня трэба блізка аж дагалоўкі абразаць націньне. У склепе не павінна быць вышэй 3-4 градусаў цяплыні.

Турнэпс і кармовая морква лепш удаюцца на лёгкіх супясках. Морква вельмі каштоўны корм для жывёлы. Лепшы сорт турнэпсу „Эстэр-зундаўскі", кармавой морквы — „белая зялёнагаловая".

Пры культуры бручкі і буракоў мы зьвяртаем увагу на вельмі каштоўны прыём: на ўжываньне салітры.

У пачатку чэрвеня, калі рассада возьмецца, тады пад кожную расьліну трэба падсыпаць навакол 3-4 грамы парашку салітры з разьлічэньнем, каб гэта было зроблена пад дождж і пасьля таго, як расьліны ўжо разьмяркованы (1×26 альбо 8 вяршк.). Належнае ўжываньне салітры пад кораньплоды ў пачатку разьвіцьця росту павінна даць выключна добрыя ўраджаі.

## Дзяржаўнае будаўніцтва ў нашым Краі.

Сойм ужо ўхваліў запрапанаваны Міністрам Скарбу закон аб надзвычайным дзяржаўным будаўніцтве. На будаўляныя работы нанашага Краю Урад вызначыў больш 13 мільёнаў зл. Да гэтае сумы не ўваходзяць яшчэ гэткія пазыцыі, як запамогі на будову самаўрадавых дарог і мастоў, на будову ўрадавых дарог і мастоў у суме 29 міл. зл.

Будуць выбудаваны новыя будынкі старостваў у Брэслаўлі, Сьвенцянах і Навагрудку, за $1^1/_2$ міл. зл., новыя акружныя суды ў Навагрудку, Пінску і Беластоку за 3,2 міл. зл. і на міравыя суды на тэрэне Усход. ваяводзтваў — 4.150.000 зл.

Школьныя гмахі будуць выбудаваны ў наступных пунктах: Інстытут анатоміі пры унівэрсытэце Ст. Баторыя ў Вільні—680.000 зл., Тэхнічная школа ў Вільні—1,170,000 зл. Дзяржаўныя гімназіі: Сьвенцянах — 270,000 зл., Лідзе — 800,000 зл.

Апрача гэтага будаўляны плян на гэты год прадбачыць: будову дамоў для пастарункаў паліцыі, удоўжкі граніцы і памешканьні для батальёнаў пагранічнае стражы, на што вызначана больш 4 міл. зл.

Усе гэтыя работы распачнуцца ў гэтым будаўляным сэзоне.

### Вялікія асыгнаваньні ў дзяржаўным бюджэце на будову шляхоў у Польшчы.

Урадам супольна з самаўрадамі распрацаваны ў надзвычайным бюджэце Польшчы на 1928—1929 год аддзел, ахвяраваны разбудове шляхоў у Краі.

Вось сьцяг гэтых асыгнаваньняў па Мін. Публічных Работаў на шляхі.

| | |
|---|---|
| Будова дзяржаўных шляхоў . . | 6.230.000 зл. |
| Будова сталых пастоў на дзярж. шляхох . . . . . . . . . | 5.000.000 „ |
| Каменяломні . . . . . . . . | 2.000.000 „ |
| Запамогі на будову самаўрад. шляхоў . . . . . . . . | 6.770.000 „ |
| Запамогі на будову сталых мастоў на самаўрадавых шляхох . . | 2.000.000 „ |
| Перабудова дзяржаўных шляхоў | 9.000.000 „ |
| Усяго на будову шляхоў | 31.000.000 зл. |

Шкада толькі, што мы ня маем пакуль што дакладных вестак, сколькі з гэтай сумы дастанецца на наш Край. Апрача таго, на перабудову штучных вадзяных шляхоў (каналаў), на рэгуляцыю пагранічных рэкаў і на зьвязаныя з гэтым меліарацыі (палепшаньне грунтаў) асыгнавана звыш 5 мільён. злот.

Зразумела ўсе гэта — кропля ў моры таго, што патрэба. Але першы рашучы крок, а галоўнае—у складзе агульна апрацаванага пляну—зроблены. Як ведама, на чале гэтай акцыі стаіць вядомы інжэнэр спэцыяліст, Міністар Публічн. Работаў Марачэўскі, адзін з сумленнейшых людзей у Польшчы, і найбліжэйшы асабісты прыяцель марш. Пілсудскага.

### Будова шляхоў.

Міністэрства Грамадзкай Працы ў хуткім часе прыступіць да будовы шошы ў ваяводзтвах: Віленскім, Наваградзкім і Палескім. Крэдыты на гэтую мэту ў суме 6 міл. зл. ужо асыгнаваны. Пры гэтым трэба адцяніць, што гэта будзе першы выпадак, што гэныя работы будуць зданы выключна фірмам і прадпрыемствам краёвым.

### Што рабіць у траўні?

Гаспадару. Сьпяшыць з засевамі ярыны, садзіць бульбу, сеяць грэчку, а ў канцы месяца проса. У канцы месяца садзіць капусту з расадніка і фляжаваць кармовыя буракі. Ад паловы месяца пачаць прыгатаўляць ральлю пад азімыя пасевы. Гной вывязьці пад пазнейшыя пасевы. Канюшына пачынае квітнуць, не адкладваючы касіць. Глядзець, каб статак ня пасьвіўся па маладой канюшыні. Рабочых валоў добра карміць у хляву. Статак выганяць на пасьбішча, а 6 г. рана і прыганяць а той-жа гадзіне вечара. Не дазваляць статку піць ваду з перасыхаючых лужынаў. Стрыгчы авец. У канцы месяца баранаваць бульбу.

Гаспадыні. Сеяць лён і каноплю. Бяліць палатно. Каля паловы месяца садзіць капусту. Садзіць агуркі. Даглядаць за куранятамі, качанятамі, гусянятамі і г. д.

Пчаляру. Калі пагода не пазваляе вылятаць пчолам з вульля, дык уставіць у вульлі запасныя рамкі з сотамі. Можна пачаць падкармляць вульлі з чарвою, у якіх ёсьць запас мёду. Гэта робіцца дзеля павялічэньня сілы пчол у першай палове месяца. Гэта-самы небясьпечны месяц для пчаляра, бо часта пчолы гінуць ад голаду. Дык трэба глядзець, каб у іх было ня менш, як 4 ф. мёду. Пчолы трымаць у цяпле. Не дапушчаць разводу трутня. Умацоўваць вульлі раскладам паміж слабейшымі і моцнымі. Перад гэтым добра было-бы папырскаць вулей часнаком, альбо камфораю напярэдадні ўвечары. Пчол у вульлі павінна быць у меру. Не дапушчаць, каб дарэмна гінуў воск. Адчыніць усе вылёты.

# Самаўрадавая хроніка.

— **Ваяводзкі самаўрад.** У № 11 „Dziennika Ustaw" з'явілася распараджэньне Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай аб ўвядзеньні па ўсей тэрыторыі Польшчы ваяводзкіх радаў і адзелаў а у „Маніторы Польскім" ад 20 красавіка зьмешчана выканаўчае распараджэньне да загаду п. Прэзыдэнта. На аснове гэтых распараджэньняў маюць адбыцца выбары ваяводзкіх радаў і адзелаў, як найвышэйшых органаў тэрытарыяльнага самаўраду. Ваяводзкая рада будзе складацца з сяброў павятовых соймікаў (кожны соймік дэлегуе аднаго сябру) і местаў,

маючых уласныя меставыя самаўрады. Ваяводзкая рада будзе мець дарадчы голас у справах належачых да выключнай кампэтэнцыі ваяводаў і ў некаторых справах, якія акрэсьлены асобнымі распараджэньнямі, будзе мець голас рашаючы. У лік апошніх уваходзіць галоўным чынам нагляд над дзейнасьцю павятовых соймікаў і аддзелаў. Ваяводзкі аддзел будзе выканаўчым органам рады і складаецца з ваяводы, як старшыні, двух фахоўцаў урадоўцаў і трох сябраў, выбраных ваяводзкай радай.

Ваяводзкі аддзел будзе з'яўляцца адначасна вышэйшаю інстанцыяй, куды можна будзе апэляваць нездаволеным пастановамі павятовых органаў самаўраду.

— **Канфэрэнцыя кіраўнікоў Соймікаў Віленскага Ваяводзтва.** 30 сакавіка ў Вільні ў Ваяводзтве пад кіраўніцтвам начальніка самаўрадавага аддзелу п. В. Дваракоўскага, адбылася канфэрэнцыя ў справе разгляду павятовых бюджэтаў, якія ў хуткім часе павінны быць прадстаўляны ў Ваяводзтва на зацьверджаньне.

У канфэрэнцыі бралі ўдзел старосты паветаў Віленска-Троцкага, Ашмянскага, Браслаўскага і Пастаўскага, г. ё. тых, бюджэты якіх былі ўжо апрацаваны.

— **Дасьледчальны пункт жывёлагадоўлі пры Ваўкавыскім Сойміку.** На паседжаньні „Wydziału powiatowego" Ваўкавыўскага Сойміку 11. II. разглядалася пытаньне аб вызначэньні маёнтку Сьвіслачы на дасьледчальны гадоўляны пунт. Мэтаю пункту будзе правядзеньне дасьледчаньняў у гадоўлі гаспадарчага інвэнтару, як напр. кароў, сьвіней, птушак і г. д. Земляробы будуць мець магчымасьць карыстацца вынікамі гэтых дасьледчаньняў і набываць расавы статак, гадоўля якога аплаціцца ў кліматычных варунках Ваўкавыйскага павету.

Пункт гэты будзе абслугоўваць ваяводзтвы Навагрудскае, Віленскае і Беластоцкае.

Пасьля дыскусіі „Wydział Pawiatowy" прыняў праэкт бюджэту дасьледчальнага пункту гадоўлі ў Сьвіслачы на 1928—29 г. на суму 196,619 зл. 50 гр. і ўхваліў зьвярнуцца да міністэрства Земляробства з просьбаю аб дзяржаўнай субсыдыі ў суме 105,664 зл. 50 гр. на пакрыцьцё бюджэтных выдаткаў на 1927—29 г.

— **Сьмерць начальніка Самаўрадавага Аддзелу Віленскага Ваяводзтва.** 6-га красавіка памёр нач. Самаўрад. Аддзелу Віленскага Ваяводзтва п. Стэфан Конец.

На мейсца яго памячаецца Ракоўскі — цяперашні заступнік начальніка Бясьпечнасці пры Віленскім Ваяводзтве.

— **Курсы для рэфэрэнтаў Віленскага Ваяводзтва.** У сувязі выданымі ў апошні час загадамі П. Прэзыдэнта Рэспублікі ў форме дэкрэтаў і маючых аснаўное значэньне ў прымяненьні і дзейнасьці Адміністрацыйных Уладаў, П. Віленскі Ваявода разаслаў усім Старостам Ваяводзтва цыркуляр, патрабуючы поўнага азнаймленьня з гэтымі дэкрэтамі, неабходнымі для ўсіх урадоўцаў, належных для складу агульнай Адміністрацыйнай Улады. З гэтай мэтай пры Ваяводзтве будуць зарганізаваны выклады для ўсіх рэфэрэнтаў. Гэткія самыя курсы адчыняюцца і ў Навагрудку.

Перад распачацьцем выкладаў у Міністэрстве Унутраніх Спраў будзе зарганізаваны кароткі курс для інструктароў, на які камандзіруюцца 4 высшых урадоўцы з Ваяводзтваў.

— **Чугуначная лінія паміж Слонімам — Навагрудкам і Маладэчнам.** Прадстаўнік фірмы, эксплёатуючай Налібоцкую пушчу, злажыў заяву Навагрудзкаму Ваяводзе, што фірма гатова ўплаціць на кошты будовы чугункі Слонім—Навагрудак—Маладечна 15 мільёнаў злотых.

Усе кошты нагэтую будову выносяць каля 40 мільёнаў і п. ваявода Бэчковіч у гэтай справе выяжджае да Варшавы, каб абгаварыць з Міністрам Камунікацыі.

— **Перабудова лініі Навагрудак—Навазльня.** У палове мінуўшага месяца Старшыня Віленскай Каляёвай Дырэкцыі п. Сташэўскі разам з вышэйшымі каляёвымі ўрадоўцамі былі на інспэкцыі вузка-калейнай ж.-д. лініі Навазльня-Навагрудак—Любча ў зьвязку з пляпаванай перабудовай вузка-калейнай гэтай лініі на шырока-калейную. У гэтай справе п. Сташэўскі меў канфэрэнцыю з Навагрудзкім Ваяводаю п. Бечковічам.

— **Выдаваньне неправідловых засьведчаньняў.** Міністэрства Рольных Рэформаў заўважыла, што некаторыя гмінныя ўрады выдаюць, прадугледжаныя законам, пасьведчаньні аб рольных кваліфікацыях лёгкадумна і не паважна для гмінных Урадаў. У зьвязку з гэтым Самаўрадавы Аддзел Віленскага Ваяводзтва зьвярнуўся да кіраўнікоў аддзелаў павятовых у Вільні, Сьвенцянах, Паставах, Глыбокім, Браслаўлю, Вялейцы, Ашмяне і Маладэчне, каб Урады гэтых гмінаў з патрэбнай стараннасьцю, павагай і адказнасьцю адносіліся да выдаваньня гэтых пасьведчаньняў, на падставе якіх Земскім Урадам прыходзіцца выдаваць сваю пастанову аб прызначэньні правоў да набываньня грунтаў пры парцэляцыі.

— **Звальненьне ад аплаты за тэхнічную работу пры выхадзе на хутары (scalenie gruntów).** Міністар Рэформаў Рольных звольніў ад аплаты тэхнічных работаў пры выхадзе на хутары вёсак, паложаных у гмінах: 1) Тумілоўскай - пав Дзісненскага, 2) Вайстомскай, Вішнёўскай, Іжаньскай і Жодзіскай — пав. Валожынскага і 3) Алькеніцкай — пав. Віленска-Троцкага, але пад варункам, што заявы аб жаданьні выйсьці на хутары будуць паданы ў Земскі Урад не пазьней 1 студня 1930 году.

— **Вэтэрынарная станцыя.** У хуткім часе ў м-ку Малыя Салечнікі адчыніцца гэтак званы фэльшэрска-вэтэрынарны пункт, мэтай якога будзе дапамагаць акалічным сялянам у справе лячэньня хворай жывёлы.

Дыжурны на пункце фэльчар будзе даваць парады на мейсцы ў гадзіны раннія ад 8 да 12, а ад 12 да 4 будзе выяжджаць на мейсцы да хворых.

У наглых выпадках дапамога будзе рабіцца як на мейсцы, так і на выязд і паза гэтымі гадзінамі.

**— Курсы для дарожных старажоў.** З ініцыятывы некаторых павятовых Старостаў, зарганізаваліся курсы для дарожных старажоў і акончыўшыя іх асобы, будуць выконваць абавязкі даглядчыкаў пры пагранічных дарожных работах.

**— Станцыя Молчадзь будзе называцца Міцкевічы.** Адпаведныя Наваградзкія Ўлады ўвайшлі з просьбай да міністра Камунікацыі аб зьмені назовы на чуг. лініі Ліда — Баранавічы станцыі Молчадзь на Міцкевічы. А гэта дзеля таго, што пры станцыі вёска называецца Міцкевічы.

**— Урухаменьне Віленскіх цагельняў.** У зьвязку з чакаемым вялікім ажыўленьнем у будаўляным сэзоне ўзнавілі працу некалькі віленскіх цагельняў, стаўшы нячыннымі доўгі час. Рэшта ўзновіць працу ў палове траўня. Міністэрства Грамадзкіх работ на распачацьце будаўляных работ асыгнавала 1,200,000 зл.

**— Разбудова Сойміковай бэтанярні ў Нясьвіжу.** Несьвіжскі Соймік ухваліў атрымаць у „Powszechnym Zakładzie Ubezpieczeń" пазыку ў суме 30,000 зл. на разбудову бэтанярні, што дасьць магчымасьць выдаваць крэдыты набыўцам бэтонных вырабаў. Ухвала гэта была зацьвержана Наваградзкім ваяводзтвам 24 красавіка, дзякуючы чаму пазыка будзе рэалізавана ў бліжэйшыя дні.

**— Курсы агнятрывалага будаўніцтва.** 23 красавіка распачаліся ў Наваградку курсы для інструктароў агнятрывалага будаўніцтва, якія працягнуцца тры тыдні.

**— Заснаваньне самахатняе агнёвай стражы.** У м. Міхалішкі Віленска-Троцкага павету зарганізавалася самахатняя агнёвая стража, якая пастанавіла зьвярнуцца з просьбаю да ўладаў аб асыгнаваньні крэдытаў для набыцьця агнёвых прыладаў.

**— Зьезд войтаў Віленска-Троцкага пав.** 28 сакавіка адбыўся ў Вільні пад кіраўніцтвам п. Старасты Вітkоўскага зьезд гмінных войтаў Віленска-Троцкага павету. На зьезьдзе разглядаліся наступныя пытаньні: аб падатках, вядзеньні працы гміннымі ўрадамі і гміннай гаспадарцы. Нарэшце школьны інспэктар закрануў пытаньне аб будове школаў у павеце.

**— З Віл.-Троцкага Сойміку.** У пачатку красавіка Віленска-Троцкім Соймікам засталі адчыняны ў Мэйшаголе, Рудзішках і Бэзданах апякунчыя станцыі над дзяцьмі і маткамі.

Гэткую-ж станцыю маняцца адчыніць пасьля сьвятаў і ў Н.-Вялейцы.

**— З Лідзкага павету.** На адбытым у сакавіку паседжаньні Павятовага Сойміку, быў ухвалены бюджэт на 1928—1929 год.

Бюджэт выносіць суму ў 1 мільён 520 тысячаў злотых. На ральніцтва прадугледжана 250 тысячаў і на справы дарожныя 300 тысячаў злотых.

Аддзел Павятовы Лідзкага Сойміку на клопаты свае аб пажыцццы на ўрухаменьне 7 бэтанярнь атрымаў вестку, што Агульны Саюз Узаемнай Страхоўкі ў Варшаве адпусьціць 50 тысячаў злотых.

Соймік Павятовы распачаў мэльёрацыйныя работы па асушчы Дакудаўскіх балотаў і рэгуляцыі рэкаў Дзітвы і Рэляссы.

**— З Дзісненскага павету.** Саюз „Колак" і Земляробскіх Арганізацыяў аб'весьціў 2 конкурсы на ўгадаваньне (uprawy) лёну і буракоў кармавых (pastewnych).

Для Дзісьненшчыны гэта мае вялікае значэньне, бо, як ведама, галоўным сьродкам даходу тутэйшага земляроба ёсьць вырабка лёну, а гэтак сама разьвіцьцё млечняў, якія залежаць ад добрай прадукцыі кармавых буракоў.

**— Са Стаўпецкага павету.** У бюджэце Павятовага Стаўпецкага Сойміку на 1928—27 г. амаль што ня 40 проц. вызначана на будову дарог, мастоў, бо гэтая справа для ўсяго павету ёсьць найбольш балючая.

У бюджэце на дарожныя выдаткі фігуруюць купля трактара, паравых вяльцаў і, як пачатак, пастаноўляна адбудаваць шашу на самых рухлівым пункце павету паміж Стаўбцамі і Сулай.

У справе камунальных прадпрыемстваў прадугледжана пашырэньне цагельні ў Мікалаеўшчыне і бэтанярні ў Сьвержню, бо гэтая справа пойдзе на палягчэньне адбудовы павету, а галоўным чынам самаго мястэчка Стаўбцы, страшэнна зьнішчанага падчас вайны.

Апрача гэтых бюджэтавых спраў Соймік у сучасны момэнт чыніць стараньні, каб зьвярнуць сабе, адрэзаныя ад іхняга павету падчас рэгуляваньня граніцаў, гміны Івенецкую і Волмянскую.

# Тутэйшая хроніка.

**— Урачыстае адчыненьне акулістычнае клінікі ў Вільні.** У Нядзелю 22 красавіка адбылося ў Вільні ўрачыстае адчыненьне акулістычнае (вочнае) клінікі пры Ўнівэрсытэце Стэфана Баторыя на Антокалі. На гэта ўрачыстае сьвята навукі і культуры зьехалася шмат прадстаўнікоў навукі з усей Польшчы. З Варшавы прыбылі міністар асьветы п. Дабруцкі і мін. зямельных рэформаў п. Станевіч.

Сярод ганаровых госьцяў былі запрошаны вышэйшыя прадстаўнікі віленскага духавенства ўсіх веравызнаньняў, ваенныя прадстаўнікі, прэзыдэнт места, паслы, сэнатары, прадстаўнікі ўсіх віленскіх урадаў, грамадзкіх арганізацыяў і прэсы.

Ад Беларусаў атрымаў запросіны і быў

прысутным рэдактар „Грамадзяніна" і выдавец „Беларускага Раднага" п. Т. Вернікоўскі.

На чале арганізацыйнага камітэту, кіраваўшага ўрачыстасьцямі, стаяў прафэсар Віленскага Унівэрсытэту, маршалак сэнату п. Шыманскі.

Пасьля набажэнства і асьвяшчэньня клінікі адбылася урачыстая акадэмія, а ўвечары п. ваявода Рачкевіч выдаў банкет для прыбыўшых госьцяў.

Урачыстасьці закончыліся толькі на другі дзень.

**— 9-ыя ўгодкі заняцьця Вільні.** 19 красавіка ў Вільні адбылося ўрачыстае набажэнства ў Віленскім Катэдральным касьцеле ў памяць 9-х угодкаў заняцьця Вільні.

**— Квяточны кірмаш.** Традыцыйна на „Jeżego" 23 красавіка кваточны кірмаш у Вільні ў гэтым годзе з прычыны зусім некрасавіковай пагоды выглядаў нядала. Кветкаў ня відаць было зусім, дый і „публікі" мала.

**— Прызыў навабранцаў 1907 г.** 1 траўня распачнецца прызыў новабранцаў 1907 г., затым будуць паклікаваны „пабаровую" камісіяй прызыўныя 1906 і 1905 г., атрымаўшыя пры папярэдніх прызывах катэгорыю „В".

**— Новы „Беларускі Земляробска-Прамысловы Каапэратыўны Банк"** (Вострабрамская 8, кв. 1) пакрыху рухаецца. Пакуль што ідзе запісь сяброў і зборка паёў. Пай каштуе 20 злотых. Залажыцялі спадзяюцца, што ў хуткім часе банк пачне функцыянаваць поўнасьцю.

**—З'езд т-ва Беларускай Школы ў Навагрудку.** 25 сакавіка г.г. ў Навагрудку адбыўся павятовы з'езд Таварыства Беларускай Школы, на якім была перавыбрана Акружная Управа ў складзе: А. Данілевіч (старшыня), Пронька, Логаш і Волька (сябры)

**Пастановы Цэнтральнага Камітэту Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі.** На паседжані Прэзыдыуму Ц. К. Бел. Хр. Дэмакратыі прынята пастанова далей прытрымлівацца тактыкі апазыцыі да сучаснага ўраду. На гэтым жа паседжаньні арганізаваны сэкрэтар'ят пасольскае фракцыі Бел. Хр. Дэм, які месьціцца на Людвісарскай вул. д. № 1, кв. 19.

Адначасна даручана паслам Карузе і Стэповічу зрабіць захады перад пракурорскімі ўладамі ў справе арыштаваных сяброў хадэціі ў зьвязку з прадвыбарнай агітацыяй і вынесена рэзалюцыя памагаць вязьням харчамі.

**— Справа сэнатара Рагулі.** 24 красавіка ў Віленскім Апэляцыйным Судзе разглядалася справа сэнатара Рагулі, засуджанага Навагрудзкім Акружным Судом на 2 гады цяжкага вастрогу. Абарона прасіла Суд паклікаць за сьведкаў начальніка Аддзелу Бясьпечнасьці Віленскага ваяводства п. С. Кіртікліса і саветніка гэтага-аддзелу п. Я. Ракоўскага. Суд пастанавіў паклікаць гэтых сьведкаў і справу адлажыў.

**— Да працэсу „Грамады".** Суд над паслом Тарашкевічам і іншымі перайшоў ужо ў 3-ю стадыю — дапрос сьведкаў ад абвінаваччаньня і ад абароны закончыўся. Цяпер Суд разглядае рэчавы матар'ял у свой час знойдзяны пры вобысках у падсудных.

**— Вучасьце амэрыканскіх беларусаў ў сьвяткаваньні дзесятых ўгодкаў незалежнасьці Літвы ў Амэрыцы.** На банкеце, які быў ладжаны літоўскім грамадзянствам у Чыкаго (Амэрыканскія Злучаныя Штаты) быў прысутны між іншымі прадстаўнік Беларускага Нацыянальнага Саюзу гр. Я. Варонка. Апрача таго Беларускі Нацыянальны Саюз выслаў на імя Літоўскага Камітэту павіншавальную тэлеграму.

**— Справа рэдактара „Сахі" грам. Павалковіча.** Паслы Беларускага Пасольскага Клюбу „Змаганьне" выступілі перад пракурорскімі ўладамі з інтэрвэнцыяй ў справе заарыштаванага перад выбарамі рэдактара сельска-гаспадарчае часоп.сі „Саха" гр. Павалковіча.

**— Часопісі вучнёўскай моладзі беларускіх гімназіяў.** Вучні Радашковіцкай Беларускай Гімназіі выпусьцілі першы нумар вучнёўскай часопісі „Гудок"

Адначасна вучні Віленскай Гімназіі выпусьцілі другі № часопісі „Васілёк", які быў сканфіскаваны гімназіяльнымі ўладамі за неадданьне на папярэднюю цэнзуру. Абедзьве часопісі выходзяць на правах рукапісу.

**— Новая беларуская кніжка.** Вышла з друку і прадаецца новая беларуская кніжка гр. Ст. Грышкевіча — „Царква, помста, вязьніца". Цана 1 залаты. Купляць можна ў беларускай кнігарні „Пагоня",—Завальная вул. № 7.

**Бунт палітычных в зьняў у Полацку (Сав. Беларусь-)** У Полацкім вастрозе палітычныевязьні, дзякуючы благім харчам і адзежы распачалі галадоўку, а калі вастрожная ўлада пачала тасаваць процў галадаючых рэпрэсыі, дык паднялі бунт. Аб прабегу бунту і наагул аб самай галадоўцы савецкая прэса маўчыць і дзякуючы гэтаму ня ведама, чым скончылася дэманстрацыя вязьняў.

**— Рэдакцыя „Грамадзяніна"** перайшла ў новае памешканьне ў тым-жа доме, але вышэй паверхам.

Адрэс цяпер гэтакі: **Wilno, Zawalna, 6 m. 5.**

## Паштовая скрынка.

А. Карпіцкаму— газэты для гуртка „Прасьветы", як высылаліся так і высылаюцца. Папярэднія даўгі не аплачваюцца

Я. Цыпелю—газэту будзем высылаць. але чакаем на карэспандэнцыі больш цікавыя, чым Вы прыслалі. „Досвіткаў" засталося мала і высылаем толькі за грошы.

Окшусу—Маладэчанскага павету. Карэспандэнцыя аб Л. Божку з Мацыноўшчыны ня пойдзе. Каму цікава што ен „боўдзіла" і іншае. Пішыце карэспандэнцыі агульна - грамадзкага характару, а асабістыя лаянкі усім абрыдлі

А. Сушко—Ваша карэспандэнцыя „Забойства" будзе зьмешчана у „Грамадзяніне"

С. Яцыновічу—Маладэчанск. пав. Ліст атрымалі газэту высылаем. Аб гаспадарчай кнізе — паведамім.

М Саковічу—2 лісты атрымалі. Адказ будзе у „Грамадзяніне"

Г. Шарабайк—грошы атрымалі. „Грамадзянін" і „Бел. Радны" будзе высылацца.

# Закон аб павятовым самаўрадзе.

**Распараджэньне Гэнэральнага Камісара Усходніх Зямель, як устаў аб павятовым самаўрадзе.**

(Dz. U. Z. W. Nr. 90 poz. 1284).

*(Працяг, гл. № 1, 2, і 4 „Бел. Радны“).*

**С) Аб паседжаньнях павятовага Соймiку і яго пастановах.**

§ 23. Старшынёю Соймiку ёсьць Староста, або яго заступнік.

§ 24. Старшыня склікае павятовы Соймiк на паседжаньні:

1) Пэрыёдычныя—абавязкова 3 разы ў год;

2) Надзвычайныя—ў меры сапраўднай патрэбы, або калі гэтага патрабуе павятовы аддзел, або ня менш $^1/_4$ агульнага ліку сяброў павятовага Соймiку.

§ 25. Для правамоцнасьці паседжаньня Соймiку звычайнага ці надзвычайнага патрэбна прысутнасьць паловы агульнага ліку сяброў.

Але для правамоцнасьці надзвычайнага паседжаньня, скліканага з прычынаў асаблівай вагі, як: з прычынаў стыхійнага бедства, або прычынаў, выкліканых вайною, патрэбна ёсьць прысутнасьць $^1/_5$ агульнага ліку сяброў Соймiку. На патрэбу склiканьня такога роду паседжаньняў трэба ў кожным асобным выпадку атрымаць згоду Ваяводы, якая атрымліваецца на прадстаўленьне Старосты.

Для ўхваленьня пастановаў аб пазычцы і закладзе маемасьці павятовага самаўрадавага хаўрусу неабходна прысутнасьць прынамсі $^2/_3$ агульнага ліку сяброў Соймiку.

§ 26. Дзённы парадак паседжаньня Соймiку ўстанаўляе на прапазыку павятовага Аддзелу—Староста. Пункты дзеннага парадку, запрапанаваныя Аддзелам, ня могуць быць выкінуты Старостай, калі яны ня выходзяць за межы кампэтэнцыі Соймiку.

Дзенны парадак паседжаньня можа быць дапоўнены Старостам, або Соймiкам, на прапазыку паасобных сяброў.

Разгляд справаў, унесяных на дзенны парадак пасьля рассылкі яго сябрам Соймiку, можа быць адложаны на падставе рашэньня Старшыні, да наступнага паседжаньня.

§ 27. Праэкты ўсялякіх мясцовых статутаў („абавязковыя пастановы“), прынамсі за тыдзень перад разглядам іх павінны быць унесяны Павятоваму Ураду, з мэтай абсьледваньня іх праз падляжачых рэфэрэнтаў. Рэфэрэнт адносны павінен быць прысутны на паседжаньні Соймiку ў характары рэчазнаўцы, пры чым мае дарадчы голас. Адсутнасьць рэфэрэнта ня ўстрымоўвае прыняцьця пастановы па дадзенай справе.

§ 28. Паседжаньні Павятовага Соймiку ёсьць яўныя. Аднак на прапазыку Старшыні, або прынамся $^1/_4$ прысутных сябраў, Соймiк можа большасьцю $^2/_3$ галасоў прысутных пастанавіць аб тайнасьці паседжаньня.

Падчас абгаварываньня бюджэту і разглядаьня рахункаў павятовага самаўрадавага хаўрусу, паседжаньні павінны быць яўныя.

§ 29. Старшыня мае права выдаліць з салі паседжаньняў кожную асобу з публікі, якая нарушае парадак, а ў выпадку патрэбы—выдаць загад на'т аб поўным выдаленьні публікі з залі.

§ 30. Сябра Соймiку за неуласьціваe, або нязгоднае з рэгулямінам захаваньне і перашкаджаньне ў нарадах, можа быць выключаны на адно да трох паседжаньняў, аднак ня йначай, як на моцы пастановы Соймiку, прынятай на прапазыку Старшыні большасьцю $^2/_3$ прысутных сяброў.

§ 31. Калі ў справе, якая абгаварваецца на нарадзе, ёсьць заінтэрэсаваны матар'яльна сябра павятовага Соймiку, або яго кроўныя ці сваякі першых трох ступеняў, сябра гэты ня можа быць прысутны пры разглядваньні справы, а такжа і пры галасаваньні па ёй.

§ 32. Сябра Соймiку, які не зьяўляецца на паседжаньні без высьсненьня здавальваючых прычынаў, тлумачучых няяўку—падлягае рэгулямінавай кары ад 50 да 100 зл. Налажэньне кары залежыць ад узнаньня Старшыні.

§ 33. Калі адно паседжаньне не адбылося з прычынаў недастачы ліку прысутных сяброў, то наступнае паседжаньне, скліканае з тым самым дзенным парадкам, ёсьць правамоцным незалежна ад прыбыўшых сяброў Соймiку, аб чым зазначаецца ў паведамленьні аб паседжаньні.

Сябра Соймiку, які не зьяўляецца на гэтае другое паседжаньне без падачы прычын, якія апраўдываюць яго няяўку, падлягае рэгулямінавай кары ад 100 да 1000 марак (злот.). Налажэньне кары залежыць ад узнаньня Старшыні.

(Працяг будзе).



Выдавец — Т. ВЕРНІКОУСКІ. Рэдактар — Я. ЯРОШ.
Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны — Вільня, Людвісарская 1.